# Беларуская маладзёжная

№28(54)
15.09.95

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.




## TV программа на неделю

( стр. 4 )

## Пра РОК

( стар. 7 )

12 верасня быў афіцыйна абвешчаны конкурс на атрыманне стыпендый для маладых спецыялістаў па праграме навучання у ЗША імя Эдмунда Маскі. Гэта зрабіла ў прысутнасці журналістаў Джэнет Дэмірэй -- аташэ па пытаннях культуры, адукацыі і інфармацыі пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь. Кіраўніцтва і фінансаванне праграмы ажыццяўляе Інфармацыйнае агенцтва ЗША, а праводзіць гэты конкурс на тэрыторыі нашай краіны Інфармацыйны цэнтр Фонда Сораса. Туды, дарэчы, вы можаце звяртацца па дадатковую інфармацыю.

Вынік перамогі ў гэтым конкурсе -- стыпендыя для навучання ў вышэйшых навучальных установах Злучаных Штатаў напрацягу 1-2 гадоў. Вы зможаце ўдасканаліць свае веды ў галіне кіравання камерцыйнай дзейнасцю, дзяржаўным кіраванні, эканоміцы і юрыспрудэнцыі. Да тых, хто прэтэндуе на атрыманне стыпендыі , вылучаюцца наступныя патрабаванні: удзельнікі праграмы павінны мець беларускае грамадзянства, на момант падачы заявы іх узрост не павінен перавышаць 40 гадоў, іх вышэйшая адукацыя павінна быць пацверджана дыпломам. Акрамя таго, яны павінны добра валодаць англійскай мовай і мець магчымасць пачаць навучанне летам 1996 года (хаця, апошнія патрабаванні, мяркую, з шэрагу "для самых нездагадлівых", бо для чаго прэтэндаваць на навучанне ў ЗША, калі двух словаў звязаць не можаш на англійскай, ды так распланаваў своё жыццё, што не адарвешся).

Заявы на ўдзел у конкурсе павінны падавацца на англійскай мове ў Інфармацыйны цэнтр Фонда Сораса, апошні дзень падачы -- 27 кастрычніка гэтага году. Што будзе далей? А далей будзе конкурс вашых анкет, у выніку, калі вашая пераможа, то ў другім этапе, паўфінальным, вас папросяць здаць экзамен TOEFL. Калі вы прэтэндуеце на эканамічную і юрыдычную адукацыю, то падрыхтуйцеся і да экзамену па ёй. А калі вы і тут станеце параможцам, то будзьце гатовыя да размовы-інтэрв'ю з выкладчыкамі амерыканскіх ВНУ. А калі і гэты арэшак адолееце, верагодна, што ўвойдзеце ў лік 125 шчаслівчыкаў з СНД, якім будзе прадстаўлена права навучацца ў коледжах і ўніверсітэтах Амерыкі.

Ад сябе -- жадаю поспехаў і нагадаю, што Фонд Сораса, куды вы можаце звярнуцца па інфармацыю, мае кантактны нумар 62-88-88.

*А.ХМЯЛЬНІЦКІ, для "БМ"*

## "МАЛАДАЯ ГРАМАДА" ДА І ПАСЛЯ "ПУТЧУ"

( стар. 3 )



## ЧТО ЕСТЬ ЖИЗНЬ? СПОКОЙСТВИЕ И ПИВО...

( стр. 2 )



## Багданкевіч! На каго ты нас пакідаеш?

## Аб'яднoўвацца заўсёды цяжка

На чарговым з'ездзе БСДГ, які адбыўся 9 верасня і на якім прысутнічала 160 дэлегатаў, была прынята рэзалюцыя аб стварэнні юрыдычнага блоку Сацыял-дэмакратычны Саюз. Прычым, Алег Трусаў, былы кіраўнік БСДГ, вынес свой праект рэзалюцыі з тым, каб лічыць гэты блок толькі блокам падчас выбараў. Яго прапанову падтрымала 85 чалавек, 13 выказалася супраць. Астатнія ўдзелу ў галасаванні не прынялі. 32 чалавекі выказаліся наогул супраць юрыдычнага блоку з партыямі, якія маюць "неадназначную рэпутацыю". БСДГ адна з найбольш папулярных у рэгіёнах рэспублікі дэмакратычных партый, здаецца, падзялілася на тры лагеры: прыхільнікаў М.Статкевіча, А.Трусава і члена выканкама П.Краўчанкі. Апошнія лічаць, што стварэнне сацыял-дэмакратычнага блоку -- крок не наперад, а назад. На іх погляд, паднятая Статкевічам ідэя "інтэрнацыяналізацыі" насуперак былой палітыцы нацыянальнай дэмакратыі паспрыяе толькі таму, што партыя згубіць свой стары электарат.

*Вольга МАМЧЫЦ*

## Яшчэ адна кааліцыя

13 верасня дабылося падпісанне пагаднення аб заснаванні кааліцыі Беларускай Народнай партыі, Беларускай нацыянальнай партыі, партыі Хрысціянскі дэмакратычны выбар і Беларускі Хрысціянскі дэмакратычны Саюз. Яны будуць дапамагаць адзін аднаму, каардынуючы свае дзеянні ў чарговым прадвыбарным марафоне.

Час прысляшае рэзка зразумець, што бегчы "марафон" па-асобку цяжка.

Падпісанне пагаднення хрысціянскіх дэмакратаў праходзіла ў Доме літаратара. Цікавым у гэтай імпрэзе быў банкет. Асабліва для галодных прадстаўнікоў прэсы.

*Маргарыта НЯПОМНЯШЧАЯ*

## Адзін за ўсіх, усе за аднаго

9 верасня адбыўся чаргова Сойм БНФ. Асноўнае пытанне -- падрыхтоўка да выбараў. Было вырашана пайсці на супрацоўніцтва з іншымі дэмакратычнымі сіламі і дасягнуць таго, каб па кожнай акрузе абіраўся толькі адзін кандыдат -- дэмакрат.

*Жана СІНІЦКАЯ*



# КУДЫ ІДЗЕШ, РАДЗІМА?

8 ВЕРАСНЯ. Святкаванне бітвы пад Воршай. Для адных -- Дзень беларускай вайсковай славы. Для другіх -- змрочная дата ў гісторыі, калі славяне пабілі славян. Вокліч "Жыве Беларусь!" і улюбёны яшчэ многімі прынцып: "Мой адрес -- не дом и не улица..."

Два натоўпы на вуглу ля Купалаўскага сквераку: адзін, пад сцягамі і з кветкамі, рухаецца да Опернага тэатра, -- натоўп людзей, апранутых у стылі "сумленнага жабрацтва". Насупраць ідзе другі, святочны, -- у цырк; там -- адкрыццё сезону.

"Фронтаўцы" -- хаця наўрад ці належаць да Фронту ўсе, каго мы пабачылі ля помніку Купале, -- пачалі збірацца яшчэ з 4-ай гадзіны. Шмат знаёмых твараў. Асабліва -- пажылых пасівелых жанчын у сціплых "настаўніцкіх" касцюмах. Пасля прэзідэнцкіх вычварэнстваў у галіне адукацыі шмат каму з іх проста няма чаго рабіць далей.

Падлеткі групуюцца сваім колам. Знаходзяць галінкі дрэў і прычэпліваюць на іх бел-чырвона-белыя сцяжкі. Мы бачылі гэтую дзятву 24 мая ў "ланцугу вязняў" ля будынку Адміністрацыі. Нядобра весці дзяцей змагацца, але калі яны прыходзяць самі... Можа -- інакш нельга?

Ля помніка -- ужо каля 400 чалавек, калі з кветкамі, жонкай і сябрамі з'яўляецца Пазьняк. Па натоўпу -- як электрычны шок прайшоў -- у гэтых, і не толькі гэтых людзей ёсць падстава быць удзячнымі яму за тое, што ён ёсць.

У розных месцах пачынаюць спяваць, у асноўным -- жанчыны. Кардон міліцыянтаў становіцца больш шчыльным і, нарэшце, парасейску дысанансам гучыць: "Дебилы!" Разнерваваўшагася "мянта" пачынаюць супакойваць таварышы. Да яго адразу падлятаюць некалькі "фронтаўцаў" сталага ўзросту. Адны спрабуюць растлумачыць на нервах міліцыянтам, што сваім змаганнем адстойваюць і іх правы таксама; другія -- гэта відавочна -- гатовыя біцца ўшчэнт.

Падаецца, зялёная міліцэйская форма сапраўды робіць нелюдзямі амаль усіх, хто яе апранае. Інакш -- адкуль такая нянавісць у іх да сваёй знявечанай краіны?

Божа, што яны крычаць у мегафон! "Граждане, не делайте этого, не шествуйте! Вы должны делать не то, что хочется, а то, что предписывается! Иначе это будет не демократия, а антидемократия!"

Але калона ідзе ўздоўж сквера да помніка Багдановічу.

Здаецца, не прагнуць бойкі ўжо цяжка!

Ускокваем у тралейбус і праязджаем на адзін прыпынак далей за Оперны тэатр. Пакуль едзем -- уздоўж тратуару бачым безліч міліцэйскіх "варанкоў".

Вяртаемся да калоны, распавядаем аб гэтым, спрабуючы пераканаць знаёмых, што нарывацца не варта. Урэшце рэшт, Пазьняк накіроўвае народ да Дому літаратара, дзе павінна прайсці "афіцыйная", дазволеная вечарына.

І пакуль ідзем радамі ў коле міліцыі і АМАПа, спінамі адчуваючы іх подых і позіркі, -- з усіх бакоў падае міліцэйскі мат.

І адчуванне дзіўнай еднасці. Хаця б зараз... Калі-небудзь, магчыма, і Прэзідэнт, і Сабор, і РНЕ зразумеюць, што яны памыляліся ў нечым...

Жыве Беларусь!

*Сяргей КІЕНЯ*
*Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, "БМ"*

# ЧТО ЕСТЬ ЖИЗНЬ? СПОКОЙСТВИЕ И ПИВО...



***В свое время, исходя из собственных пацифистских пристрастий, БМ здорово "болела" в предвыборной кампании за самую веселую и самую миролюбивую партию -- Любителей пива. Увы, на выборах им не повезло, на какое-то время они совсем изчезли с горизонта, -- видимо, разбрелись в разные стороны переживать горечь поражения.***

***После паузы в три летних месяца я отыскала лидера партии Андрея Ромашевского. И обнаружила его не слишком приунывшим, -- у него даже начинают отрастать волосы (сразу по окончании выборов Андрей остригся наголо).***

***Прошли веселые дни, когда разудалая группа поддержки Ромашевского -- Бормана носила, как икону, его портрет, написанный художником Александром Пушкиным, а студенчество "тащилось" на организованных им рок-концертах. Сегодняшний Борман днями и ночами сидит у компьютера, погрузившись в игры и программы посерьезнее, он отключил телефон напрочь, и в начале грустного разговора, сдобренного бутылкой пивка, сказал о том, что измеряет нынче время не днями, а годами и месяцами и просто перестал куда-то спешить.***

**-- Андрей, правда, что Партия любителей пива законсервировала свою деятельность?**

-- С партией не происходит ничего особенного. То же самое происходит с любой другой партией, в любой другой стране в промежутке времени между выборными кампаниями. Поищите в Америке Республиканскую партию через год после выборов. Найдете несколько работающих на местах аппаратчиков -- и все. Практически никакой активной деятельности между выборами партии не ведут. Они получили свои места в парламенте -- и там работают; не получили -- ждут следующих выборов.

**-- Станут ли для ПЛП следующими осенние выборы?**

-- Будут ли они еще? Участвовать в них все-таки не будем. Возможно, какие-то частные случаи выдвижения от нас будут, но это не будет общепартийной кампанией.

**-- Почему?**

-- Режим Лукашенко может продержаться очень долго. Как минимум, еще 4 года. Впоследствии, возможно, и больше, если не будет экстремальных событий, а их, скорее всего, не будет, -- стихийных бедствий, революций. Потому что А.Лукашенко -- неотъемлемая часть этого народа, и народ выбрал "главу" прямо из себя. Президент целиком вышел из народа, и это народу нравится.

**-- Но можно ли привить этому народу иные критерии оценки?**

-- Не надо никого ни к чему принуждать. Этот народ в свое время вымрет естественным образом. А на следующее поколение можно будет надеяться. Людей всегда устраивает то, что они имеют. Они хотели Лукашенко -- они его имеют. Когда народ созреет до демократии -- демократы будут у власти. Наша партия -- либеральной ориентации, поэтому мы на власть претендовать не можем, разве лишь на какую-то часть в структуре этой власти, не более того.

**-- Что же будет с бедным народом?**

-- С бедным народом останется голод и холод будущей зимы. Если она будет голодной, если она будет холодной, то народ еще больше будет любить своего президента, потому что будет надеяться, что президент возьмет им газа из России, зерна, чтобы поесть, мяса, чтобы сделать колбасу, и чем хуже будет, тем больше будут они его любить, не обращая внимания, что, благодаря его стараниям, все хуже и становится. Таков народ. Так получается само собой, по той же причине, по какой уроненное тело падает вниз. Просто существует закон притяжения.

**-- Но хотя бы последующие поколения может что-то сделать другими?**

-- Да. Минимальное участие в воспитании поколения этого.

...Еще Андрей сказал, что не ставит себе больше целью создание карьеры политика. Предпочитая просто спокойно жить -- и, желательно, в этой стране.

*Разговаривала*
*Тина КЛЫКОВСКАЯ, "БМ"*

● Интеграловское "уравнение"

# По чернобыльским ступенькам -- к интеграловским дождям

## Худые вести у порога

Первый слой информации о каком-либо предприятии приходит к нам в обличии товаров, выпускаемых им. Мы радуемся, если товары эти отличаются от остальных качеством. Но мало кто задумывается, какой ценой достигается эта видимая часть работы завода или фирмы.

НПО "Интеграл". Пока был в "обороне", вообще сложно было обнародовать негативную информацию об экологической обстановке на предприятии: существовало негласное вето даже на подобие намека о каких-то промахах. Поэтому выбросы кислотных паров и веществ в воздушный бассейн города продолжаются и ныне, но уже накатом. А иначе и не работают цеха, участки. Случись независимым экспертам взять пробы грунта и стоков, их вывод был бы однозначен: по всем показателям эти земли надо приравнять к известным территориям отчуждения на века. К плановым экологическим проверкам, как известно, готовятся, подбирают "хвосты", чаще всего -- не работают с кислотами в рабочем объеме. Я сам не раз бывал свидетелем тому, как в хороший мороз над крышами главных корпусов зависает желтый туман. И на самой территории в будние дни кислотные выбросы ощущаются почти повсеместно. Работницы объединения -- женщины постарше, смиренно оправдываются: "Рожать нам уже не нужно", молодые -- будущие матери -- довольно опрометчиво решаются работать с ядовитыми веществами. Собрать бы статистику на всех детей "Интеграла", картина была бы ужасной. Но если прежде такой труд компенсировался приличными заработками, то сегодняшний заработок -- не деньги.

К слову сказать, часть трудового коллектива и администрации проживает в микрорайоне Курасовщина. И уж кто-кто, а жители микрорайона знают по собственному опыту, что такое ветер с "Интеграла". Поэтому и неудивительно, что по ул.Казинца лет пятьсемь назад был возведен 9-этажный красавец-дом № 120. Как щит пятиэтажкам. Форточки этого дома с заводской стороны редко увидишь открытыми.

Но одна беда не ходит. Смею утверждать: не только над прилегающими жилыми кварталами, но и над Минском нависла угроза отравления цианистыми соединениями, которые в скором времени могут появиться над крышами "Интеграла". Сегодня еще не завезено дорогостоящее оборудование из Америки. Тамошней фирме, взявшей на вооружение цианистую технологию производства кристаллов, не позволила развернуться международная экологическая организация Гринпис. Там, в Америке, Гринпис подняла людей, и люди сказали свое НЕТ этому производству. А нынешний Генеральный директор НПО "Интеграл" г.Емельянов предложил этой фирме свои услуги по размещению их технологии на территории предприятия. За что, надо полагать, и получил звание "почетного гражданина" далекого американского и чуждого нашим проблемам города. Увы, это будут НАШИ проблемы, если цианистая гальваника даст первую продукцию.

У администрации объединения есть единственный козырь. Они через эту гальванику будто бы создадут новые рабочие места. Что ж, похвально, если не сказать больше. Если не сказать: НЕ РАБОЧИЕ МЕСТА, А МОГИЛЫ ДЛЯ РАБОЧИХ, МОГИЛЫ ДЛЯ НЫНЕШНИХ И БУДУЩИХ ДЕТЕЙ.

Сегодня еще пустуют подготовленные производственные площади. Может, оборудование уже в пути.

ГОСПОДИН ПРЕЗИДЕНТ, УВАЖАЕМЫЙ АЛЕКСАНДР ГРИГОРЬЕВИЧ!

МИНЧАНЕ!

Ведь никто не даст гарантий, что именно вас минует первый же выброс цианистой гальваники совместной фирмы "Интекрас". Чернобыль казался таким далеким... а это -- в городе!

Помните, что дети не простят нам сегодняшнего молчания.

Это кто там ратует за здоровье нации? АУ! ГДЕ ВЫ?

*Александр ЭЙПУР,*
*бывший работник НПО "Интеграл"*

